# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 28 (189), 2 — 8 ЖНІЎНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 1000 РУБЛЁЎ




# ПАТРЫЯРХ БЛАСЛАЎЛЯЕ



Першасвяціцельскае падарожжа па епархіях Беларускай праваслаўнай царквы здзейсніў 22 — 26 ліпеня г.г. Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій Другі. Вандроўка кіраўніка Рускай праваслаўнай царквы была прысвечана 50-годдзю ўсеагульнай перамогі брацкіх народаў у Вялікай Айчыннай вайне з фашызмам. Як і першае падарожжа Яго Святасці па епархіях Беларусі, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, зробленае ў 1991 годзе, сёлетні візіт сімвалізуе малітвенае адзінства і брацкую хрысціянскую ўзаемадапамогу славянскіх народаў у гады гістарычных выпрабаванняў.

Пасля прыбыцця ў Мінск Патрыярх усклаў вянок да манумента на плошчы Перамогі, аддаючы даніну памяці тым, хто ў ратным і працоўным подзвігу аддаў жыццё за свабоду Айчыны. "А тым, хто жывы вярнуўся з вайны і потым ствараў дабрабыт народа, жадаю міру і працвітання",— сказаў Найсвяцейшы Алексій Другі. Ён сардэчна прывітаў жыхароў Мінска, якія сабраліся на плошчы Перамогі. "Я рады, што маю магчымасць у час 50-годдзя Перамогі над фашызмам пабываць на шматпакутнай беларускай зямлі, сустрэцца з яе цудоўным народам. Няхай благаславенне Божае спадарожнічае вашай краіне ў станаўленні дзяржаўнасці і будаўніцтве новага грамадства. Жадаю многія лета ўладам, воінству і народу Беларусі",— сказаў высокі госць.

Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій Другі нанёс візіт Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку. У час гутаркі кіраўнік беларускай дзяржавы, у прыватнасці, сказаў, што візіт кіраўніка праваслаўнай царквы ў Беларусь — вялікі гонар. Падкрэсліўшы, што сіла праваслаўя, якая заключаецца, як гэта ўяўляецца, у гатоўнасці штодзённа пацвярджаць высокі клопат аб чалавеку, аб міры і спакоі ў грамадстве, ён выказаў надзею, што такую сілу маюць і іншыя канфесіі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі.

"Сёння для ўсіх нас аб'яднальным фактарам павінна стаць самае галоўнае — не дапусціць процістаяння, прадухіліць нарастанне варожасці, спакойна і ўпэўнена вырашаць жыццёвыя задачы",— сказаў Прэзідэнт.

За вялікую міратворчую дзейнасць і ўмацаванне славянскага адзінства народаў Патрыярх Алексій Другі быў узнагароджаны медалём імя Францыска Скарыны.

(Заканчэнне на стар. 2)

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# ПАДЗЯКА МАСТАКУ



Свой унёсак у святкаванне Дня Незалежнасці дзяржавы зрабіў народны мастак Беларусі Аляксандр Кішчанка: у Міжнародным выставачным цэнтры, што на праспекце Машэрава ў Мінску, быў прадэманстраваны яго "Габелен стагоддзя". З унікальным творам мастацтва 27 ліпеня мог пазнаёміцца кожны.

Своеасаблівую выстаўку аднаго дня наведаў і прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. У час размовы паміж мастаком і кіраўніком дзяржавы прагучала думка пра тое, што гіганцкі "Габелен стагоддзя", які стварылі беларускія ткачыхі, мог бы стаць цэнтральнай часткай інтэр'ера, напрыклад, Залы Урачыстасцей краіны, праект якой неабходна распрацоўваць. У гэтай зале адбываліся б найбольш значныя гістарычныя падзеі ў жыцці рэспублікі.

Выказаўшы сваю ўдзячнасць творцы, прэзідэнт уручыў яму кветкі. Народны мастак падарыў А.Лукашэнку сваю "візітоўку" — ілюстраваны альбом пра ўласную творчасць, аўтарам якога з'яўляецца рэдактар аддзела газеты "Культура" Барыс Крэпак.

"Габелен стагоддзя" ў той дзень паглядзелі таксама прэм'ер-міністр рэспублікі Міхаіл Чыгір і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб.

**Наш кар.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ПАТРЫЯРХ БЛАСЛАЎЛЯЕ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.1)*



Пры велізарнай колькасці прыхаджан высокі госць прыняў удзел у Нядзельнай вячэрні ў Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы. Прадоўжылася знаходжанне Яго Святасці ў беларускай сталіцы наведваннем будуемых прыходаў: Свята-Георгіеўскага ў Чыжоўцы, Свята-Пакроўскага ў Крупцах, Свята-Петрапаўлаўскага на Ракаўскай вуліцы. Святы ўладыка Алексій Другі агледзеў таксама будаўнічую пляцоўку Дома міласэрнасці на Старабарысаўскім тракце і пабываў на багаслоўскім факультэце Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта.

Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія Другога цёпла сустрэлі таксама духавенства і прыхаджане



царквы "Усіх тужлівых Радасці". Прыход быў створаны праз пяць гадоў пасля чарнобыльскай катастрофы, 26 красавіка 1991 года, у дзень асвячэння памятнага знака на месцы ўзвядзення храма ў памяць аб загінуўшых і пакутных ад чарнобыльскага бедства. Месца будаўніцтва ў чэрвені 1992 года блаславіў Яго Святасць. Сёння гэты прыход у гонар іконы Божай Маці "Усіх тужлівых Радасці" шырока разгарнуў сваю дзейнасць. Пад яго апекай знаходзяцца дзіцячы псіханеўралагічны дом-інтэрнат, дзіцячы дом № 2, перасяленцы з чарнобыльскай зоны і таварыства сляпых Фрунзенскага раёна Мінска. Пры прыходзе існуе таксама сястрыцтва міласэрнасці ў імя прападобнай Еўфрасінні Полацкай.

У прыходзе Святы ўладыка асвяціў храм у імя святой прападобнай Еўфрасінні Полацкай. Потым адбыліся Боская літургія і асвячэнне нядзельнай школы.

З 23 па 26 ліпеня працягвалася чатырохдзённае падарожжа Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі па Мінскай, Гродзенскай і Брэсцкай епархіях Беларускай праваслаўнай царквы.

**БЕЛІНФАРМ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# І Ў СВЯТА — ПРА НАДЗЁННАЕ

Па-рознаму святкавалі грамадзяне Беларусі Дзень Незалежнасці. Былі афіцыйнае пасяджэнне і канцэрт, нефармальнае шэсце і мітынг, былі проста сустрэчы з людзьмі, якія адбываліся па месцы іх жыхарства. Пра адну з такіх сустрэч, якая прайшла 25 ліпеня ў Зялёным Лузе ў памяшканні бібліятэкі № 17 на Лагойскім тракце, мы і раскажам.

На вечарыну ў гонар беларускага нацыянальнага свята (а ладзілі яе Савецкая філія Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Цэнтральная рада БНФ і Таварыства беларускай мовы Савецкага раёна г.Мінска) прыйшлі людзі рознага ўзросту. Тут былі моладзь, студэнты, творчая і тэхнічная інтэлігенцыя, рабочыя і пенсіянеры. Некаторыя прыйшлі ўсёй сям'ёй.

Выступілі вядомыя беларускія гісторыкі, пісьменнікі і палітыкі: літаратуразнавец, член-карэспандэнт АН Беларусі Міхась Мушынскі, доктар гістарычных навук Міхась Біч, гісторык, супрацоўнік выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" Віталь Скалабан, пісьменнік і журналіст, рэдактар газеты "Наша слова" Эрнэст Ялугін, старшыня Таварыства татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Ібрагім Канапацкі, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, вядомы даследчык беларуска-чэшскіх культурных узаемадачыненняў Леў Міравіцкі, дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі Лявон Баршчэўскі і Алег Трусаў.

Лейтматыў сустрэчы — што дала беларускаму народу незалежнасць, чаму унікальныя магчымасці геапалітычнага становішча Беларусі кіраўніцтва краіны не можа выкарыстаць напоўніцу і сёння, чаму і сёння мы мусім гаварыць пра надзвычай нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці.

Міхась Мушынскі звярнуў увагу на тое, што частка беларускай інтэлігенцыі занадта доўга знаходзілася ў стане пэўнай эйфарыі, тым часам як другая частка — у стане нейкага чакання ці абыякавасці. І ўсе разам не заўважылі, як зноў распачаўся шалёны наступ на ўсё беларускае, роднае, спрадвечнае. Выправіць жа становішча можна толькі разгарнуўшы шырокую асветніцкую працу сярод людзей па месцы жыхарства.

Прыклады ЎЛАСНАГА дзяржаўнага будаўніцтва ў нашай краіне былі — і не адзін раз, пачынаючы з далёкай даўніны. Пра гісторыю набыцця беларусамі сваёй дзяржаўнасці ў XX стагоддзі распавёў Віталь Скалабан, а Міхась Біч запыніўся на праблемах сённяшняга дня, асабліва ў галіне гістарычнай адукацыі моладзі.

27 ліпеня — нацыянальнае свята не толькі для беларусаў, але і для ўсіх народаў, што даўно жывуць на гэтай зямлі, — падкрэсліў Ібрагім Канапацкі. Ён адзначыў, што татары ўжо 600 гадоў лічаць Беларусь сваёй радзімай, а беларускую мову — матчынай мовай, на якой яны размаўляюць з Аллагам. Эрнэст Ялугін на ўласным вопыце рускамоўнага пісьменніка, які паступова перайшоў на родную мову, паказаў эвалюцыю свядомасці пасляваеннай беларускай інтэлігенцыі. Дэпутат Лявон Баршчэўскі падзяліўся ўспамінамі, як распрацоўвалася, прымалася і нарэшце набыла сілу Канстытуцыі Дэкларацыя аб Незалежнасці Беларусі.

Усе выступоўцы падкрэслівалі вялікую сілу незалежнага друкаванага слова. Усе атрымалі першы нумар газеты Іосіфа Сярэдзіча "Народная воля" і чарговы — газеты "Свабодныя прафсаюзы".

Дэпутат Алег Трусаў зрабіў невялічкую справаздачу аб сваёй дэпутацкай дзейнасці ў акрузе і прапанаваў падрыхтаваць і правесці ў мікрараёне на пачатку верасня Тыдзень беларускага пісьменства і друку. Прапанову падтрымалі.

Чарговую сустрэчу ў мікраараёне вырашылі наладзіць з рэдактарамі незалежных газет "Народная воля" і "Свабода" (напрыканцы жніўня), а ў пачатку верасня — сустрэцца з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры, а таксама з бацькамі дзяцей, якія вучацца ў беларускіх класах.

**А.Т.**

# "ЗАЧАПІЛІ, ХЛОПЦЫ, ЗАЧАПІЛІ..."

27 ліпеня на Дзень Незалежнасці ў парку імя М.Горкага на цэнтральнай эстрадзе адбывалася свята "Зямля пад белымі крыламі", адметнасцю якога была літаратурная імпрэза "Мэмбраны", наладжаная ўдзельнікамі літаратурнага руху Бум-Бам-Літ.

Публіка, у якой налічвалася не менш за 300 пар вачэй і вушэй, мела магчымасць прычыніцца да песняў "стаўпа транслёгізму" Сержа Мінскевіча, поствербальнай лірыкі Алеся Туровіча, іранічнай прозы бацькі шызарэалізму Юрася Барысевіча, дэканструкцыйных тэкстаў Іллі Сіна, паставангарднай паэзіі Зміцера Вішнёва, гратэскавых вершаў Севы Гарачкі. Самую адказную місію — цюканне ў тазік з надпісам "Бум-Бам" — выканала Жанна Васанская. Упершыню на вечарыне Бум-Бам-Літа выступілі Арыя Ульрыка Гатальская, Сяргей Патаранскі, Алесь Філіповіч і іншыя літаратары; праявіўся талент вядучага ў журналіста-сацыёлага, карэспандэнта газеты "Культура" Міхася Равуцкага.



Імпрэза відавочна прыйшлася даспадобы ўсім, бо да яе заканчэння вачэй і вушэй перад сцэнай не паменшала, а Сева Гарачка за верш пра рабочага атрымаў ад заўзятага прыхільніка паэзіі бутэльку піва. Было шмат віншаванняў з паспяховым выступленнем. Жонка вядомага беларускага літаратуразнаўца і філосафа выказалася:"Зачапілі, хлопцы, зачапілі..." Таксама пацiснулі руку выступоўцам шыроказвядомыя паэт Леанід Дранько-Майсюк і культуролаг Валянцін Акудовіч.

Пасля вечарыны быў праведзены семінар пад адкрытым небам па тэарэтычных пытаннях транслагізму, абмяркоўвалася актуальнасць падзелу руху Бум-Бам-Літ і больш вузкай эстэтычнай групоўкі з рабочай назвай "літаратурна-мастацкая партыя". У бліжэйшы час плануецца ажыццявіць шэраг эстэтычных праектаў сумесна з маладымі мастакамі, тэатральнымі калектывамі, музыкантамі.

Дарэчы, літаратурная імпрэза была наладжана з ініцыятывы газеты "Культура", сем супрацоўнікаў якой прынялі ў ёй непасрэдны ўдзел.

**Т.А.К.**

ФАКТ

# ЧОРНЫЯ ПЛЯМЫ СВЕТЛАГА ДНЯ

Дзень Незалежнасці — свята для нас новае, і можа менавіта таму адносіны да яго ў людзей розныя. І на жаль, гэтае свята, па самой сваёй сутнасці агульнанацыянальнае, не аб'ядноўвае грамадства, а хутчэй наадварот. Без канфлікту двух палюсоў палітычнага спектра, якія знаходзяцца ў стане перманентнай канфрантацыі — улады і апазіцыі, — не абыйшлося і на гэты раз.

Пэўна, шмат хто з людзей, якія ў святочны дзень апынуліся ў цэнтры Менска, былі здзіўленыя колькасцю міліцыянераў, якія літаральна навадпілі наваколле пляца Незалежнасці. Ураніцу туды прыйшлі людзі з бел-чырвона-белымі сцягамі. Яны не ведалі, што мітынг БНФ меўся адбыцца ў парку імя Я.Купалы, і таму адмаўляліся пакінуць пляц, як гэтага патрабавала міліцыя. Узнікла сутычка. Найбольш актыўныя прыхільнікі нацыянальнай сімволікі былі збітыя і затрыманыя. Міліцыянеры патрабавалі згарнуць бел-чырвона-белыя сцягі, нягледзячы на тое, што гэтая сімволіка афіцыйна не забароненая. Тыя, хто адмаўляўся, апынуліся ў "варанку".

Пэўныя эксцэсы здарыліся і пасля тых падзей. Так, ужо бліжэй да вечара ў пастарунак патрапіла некалькі чалавек, якія вярталіся з мітынгу і таму трымалі ў руках бел-чырвона-белы сцяг. Сярод затрыманых, праўда, толькі дзеля ўстанаўлення асобы, быў і аўтар гэтага матэрыялу. Адзін мой сябра абурыўся такімі дзеяннямі міліцыі — і родныя пабачылі яго толькі праз трое сутак.

Вось такія невясёлыя падзеі здарыліся на адным з найважнейшых нашых святаў. Але трэба сказаць, што ў цэлым святкаванне прайшло нармальна, і твары людзей былі асвечаныя ўсмешкамі, выкліканымі, будзем спадзявацца, не толькі празмерным ужываннем алкаголю.

**Г.С.**

НАШ ВЫБАР — ІНТЭЛЕКТ



*Уладзімір Мацкевіч — метадолаг, культуролаг, палітолаг, высокакваліфікаваны спецыяліст па аналізе і прагнозе эканамічнай і палітычнай сітуацыі. Нарадзіўся ў 1956 годзе пад Іркуцкам у сям'і рэпрэсаваных беларусаў з Гарадзеншчыны. Скончыў факультэт псіхалогіі Ленінградскага універсітэта, актыўна ўдзельнічаў у розных праграмах Маскоўскага метадалагічнага гуртка: планаванні развіцця рэгіёнаў і свабодных эканамічных зон, атамнай энергетыкі, горадабудаўніцтва. Напрыканцы 80-х распрацаваў прынцыпы рэарганізацыі сістэмы адукацыі ў Латвіі па замове ўрада гэтай рэспублікі. Быў адным з заснавальнікаў маскоўскай Школы культурнай палітыкі. Пасля вяртання на пачатку мінулага года ў Беларусь арганізаваў і ўзначаліў Агенцтва гуманітарных тэхналогій. З'яўляецца таксама галоўным рэдактарам часопіса "Культурная палітыка". З У.Мацкевічам размаўляе наш карэспандэнт Юрась Барысевіч.*

# ДУМАЦЬ БЕЛАРУСЬ

**— Уладзімір Уладзіміравіч, што такое гуманітарныя тэхналогіі: мастацтва жыцця, інвестыцыі інтэлекту ў рынкавую эканоміку ці нешта іншае?**

— АГТ задумвалася як метадалагічная лабараторыя, кансалтынгавая група і школа для маладых людзей, якія маюць ужо вышэйшую адукацыю і здольныя ўдзельнічаць у нашых праектах. Гуманітарныя тэхналогіі — гэта ўсе залежныя ад чалавечага фактару тэхналогіі, паводле якіх жыве грамадства. Напрыклад, функцыянаванне ўсіх прававых інстытутаў, сфера фінансаў, сістэма адукацыі і г.д. У кнізе "Алхімія фінансаў" вядомы мільярдэр і мецэнат Дж.Сорас сцвярджае, што фінансавыя прагнозы заўсёды спраўджваліся б, калі б не самі людзі, што працуюць у гэтай сферы, складаюць прагнозы (у адпаведнасці з асабістым уяўленнем аб пажаданай будучыні) і праз гэта скажаюць сітуацыю на рынку каштоўных папераў. І таму дасведчаныя людзі робяць прагнозы не дзеля таго, каб нешта прадказаць, але каб паўплываць самім прагнозам на стан рэчаў. І ўвогуле гуманітарныя тэхналогіі ахопліваюць усю сферу, дзе нейкія веды аказваюцца галоўным фактарам развіцця падзей.

**— Зразумела. Якія ж праграмы Вы зараз распрацоўваеце або ажыццяўляеце?**

— Адна з асноўных — праграма "Лідэр", у якой мы супрацоўнічаем з цэлым шэрагам маладзёжных арганізацый. Працуем з дзецьмі ў міжнародных летніках і мяркуем, у прыватнасці, скласці падручнік для падлеткаў у выглядзе комікса пра свет людзей. На нашу думку, у сённяшняй сістэме адукацыі гіпертрафаванае месца займаюць веды аб прыродзе, і занадта малое — аб грамадстве, і таму дзеці вельмі блага ўяўляюць сабе, што такое свабода, уласнасць і г.д. Мы збіраем меркаванні падлеткаў пра гэтыя рэчы, часта вельмі цікавыя, каб ілюстраваць гэтымі выказваннямі кнігу і з даследчыцкімі мэтамі: што думаюць дзеці пра дэмакратыю, выбары, адказнасць перад грамадствам у сітуацыі, калі дарослыя не вучаць іх гэтым паняццям. Дарэчы, не толькі нашыя дзеці не ведаюць дастаткова пра свет людзей, але і дарослыя. Навучыць дарослых элементарным рэчам вельмі складана, а многія праблемы нашай дзяржавы вынікаюць менавіта з адсутнасці элементарных ведаў. Таму мы спадзяемся зрабіць кнігу цікавай і для дарослых — такую, каб можна было чытаць усёй сям'ёй. Апрача сацыялагічнай працы з моладдзю, мы працуем і па іншых замовах. Напрыклад, зараз працуем над стварэннем прэс-клуба Аб'яднанай дэмакратычнай партыі. Яшчэ адзін праект — часопіс "Культурная палітыка". Ужо выйшаў у свет адзін нумар і два падрыхтаваныя. Дарэчы, гэты тэрмін многія аспрэчваюць: адны кажуць, што палітыка — брудная рэч і культурнай быць не можа, а іншыя (тыя, што займаюцца палітыкай самі) пераконваюць, што яна не мае да культуры ніякага дачынення. Яны не разумеюць, што напрыканцы XX стагоддзя палітыка сілы і гвалту ўжо не спрацоўвае...

**— Але ж некаторыя падзеі ў нашай краіне пераконваюць, што спрацоўвае?**

— У гэтых падзеях перамагала не сіла, а мастацтва валодання словам. Беларускія інтэлігенты могуць моршчыць насы і адварочвацца ад таго, што робіць прэзідэнт, але пакуль ён дамінуе там, дзе павінна была б дамінаваць інтэлігенцыя, бо яна папросту маўчыць. Грамадства, у якім не развіта крытыка і аналіз актуальных падзеяў, ператвараецца ў свайго роду "чорную дзірку", у якую ўсмоктваюцца і перакручваюцца на стары капыл усе новыя пачынанні і праекты рэформ. Гэта феномен не толькі беларускі, але і ўкраінскі. А вось у суседніх краінах — Расіі, Прыбалтыцы, Польшчы — кожны крок урада ці грамадскіх арганізацый аналізуецца, правяраецца і абмяркоўваецца: ці ў тым накірунку ідзе краіна? А ў нас аналізам мэтаў і далёкіх перспектываў развіцця дзяржавы амаль ніхто не займаецца, і таму Беларусь жыве па сутнасці сённяшнім днём і па падказцы больш разумных суседзяў. Менавіта як трыбуна для абмеркавання розных канцэпцый развіцця нашай краіны і задумваўся часопіс "Культурная палітыка". У нас кожны дзень будзе падобны да ўчарашняга, пакуль мы не будзем ведаць, якое грамадства хочам пабудаваць ці выгадаваць у далёкай будучыні. Жыццё чалавека або грамадства выбудоўваецца паводле ягонага ўласнага мыслення. Калі ж мысленне адсутнічае ці не паважаецца, людзі жывуць сённяшнім, а гэта значыць учорашнім днём.

**— Ці можна сказаць, што цяперашнія праблемы беларускай дзяржаўнасці вынікаюць з нейкай недастатковасці, заблытанасці беларускага ладу мыслення?**

— Сучасны свет развіваецца вельмі хутка і таму жыве за кошт праектаў і праграм. Усе праектныя лабараторыі постсавецкай і постсацыялістычнай прасторы засталіся ў Маскве. Але ў Варшаве, Рызе, Празе, іншых сталіцах стварыліся свае праектныя ўстановы, якія дазваляюць пераадолець уплыў Расіі, а вось Мінск цалкам трапіў пад яго. Таму пытанне беларускага суверэнітэту — гэта, сапраўды, пытанне беларускага мыслення: ці то мы будзем нарэшце думаць самастойна, ці то за нас па-ранейшаму будуць думаць у Маскве.

**— Які ж прагноз наконт захавання Беларуссю незалежнасці Вы можаце зрабіць?**

— Я думаю, у гэтым сэнсе яшчэ не ўсё прайграна, яшчэ маецца магчымасць захаваць суверэнітэт. Магчыма, за кошт таго, што адбудзецца раскол у шэрагах камуністаў ды іншых левых сіл. Тыя колы камуністаў, што не будуць прадстаўлены ў парламенце, пачнуць радыкалізавацца, а прадстаўленыя пачнуць разумець, што суверэнітэт ім жа самім "на руку". Народны фронт можа наладзіць кантакты з той часткай левага лагера, якая не супраць незалежнасці. Левыя, канешне, не будуць адмаўляцца ад ідэі інтэграцыі з Расіяй, але знаходжанне ва ўладзе прымусіць іх адчуць асабістую зацікаўленасць у суверэнітэце. Апрача таго, за кошт усё большай радыкалізацыі не трапіўшых ва ўладу камуністычных лідэраў ідэя інтэграцыі будзе ў вачах грамадства ўсё больш дыскрэдытавацца.

З іншага боку, можна чакаць змякчэння радыкалізму Народнага фронту і праз гэта павелічэння ягонай вагі ў грамадстве. Адпаведна, і ідэя суверэнітэту станецца больш пукатай у грамадскай свядомасці. Не будзем забываць і тое, што прэзідэнт застаўся цяпер сам-насам з народам, без парламенцкага буфера, на які можна было спісаць памылкі выканаўчай улады.

Такім чынам, будзе ўзмацняцца апазіцыя, а галоўнае — сама ўлада будзе імкнуцца ўтрымаць суверэнітэт, бо ён чыста асабіста выгадны вельмі шырокаму колу людзей. І нягледзячы на іхнія пераканканні і залежнасць ад нейкіх "мафій" і "лобі", яны разумеюць, наколькі суверэнітэт ім "на руку". І разумеюць, што стануцца папросту непатрэбнымі ў выпадку аб'яднання Беларусі з Расеяй. І гэтым фактарам незалежніцкія сілы маглі б скарыстацца, але я не ўпэўнены, ці здолеюць яны гэта зрабіць. Пакуль многія вядучыя палітыкі будуць змагацца за свае асабістыя ці вузкапартыйныя інтарэсы, аб захаванні незалежнасці можна казаць толькі як аб адным з магчымых варыянтаў.

**— Асабістыя амбіцыі раздзіраюць і правы, і левы лагеры?**

— Так. У свой час прыхільнікі захавання СССР толькі крычалі аб тым, што яго неабходна захаваць, а самі рабілі памылку за памылкай, якія вялі да развалу. І дзеянні тых, хто хоча аднаўлення Саюза, нельга назваць разумнейшымі, але нашыя незалежнікі праводзяць не менш абмежаваную і недальнабачную палітыку, і таму ўвесь час прайграюць. Бескампрамісная нацыянальная ідэя, якую прапагандуе Народны фронт, у Беларусі не прыжываецца. Большасць выбаршчыкаў не прымае фронтаўскую ідэалогію переваґі інтарэсаў нацыі над правамі асобы. Па гэтай жа лініі праходзіць "водападзел" паміж прыхільнікамі фронту і іншых партый дэмакратычнага кірунку. Шмат вырашае і стаўленне да пытання мовы. На маю думку, прыхільнікі незалежнасці маглі б аб'яднацца ў адзіную кааліцыю і перамагчы на платформе "рускамоўнага беларускага нацыяналізму". Але Народны фронт, вакол якога і павінны былі б яднацца ўсе апазіцыйныя сілы, не хоча ісці на кампрамісы. Я спрабаваў абмяркоўваць гэтае пытанне з Пазьняком, але ён быў катэгарычна супраць, бо лічыць беларускую мову галоўным сістэмаўтваральным фактарам нацыянальнай самасвядомасці.



Мал. З. Янушэўскага

**— Мне здаецца, Пазьняк абраў сабе імідж нейкага трагічнага героя, непрызнанага генія.**

— Сапраўды, ён абраў вырачанасць на пройгрыш, а трэба выйграваць. Гісторыю ствараюць не тыя, хто згодны загінуць ці пацярпець за ідэю, а тыя, хто знаходзіць сродкі ўвасобіць яе ў жыццё. Трэба адаптавацца да сітуацыі, а фронт не імкнецца нават сачыць за ёй. Ён не праводзіць нейкіх актуальных, вартых увагі ўсяго насельніцтва акцый, а не вузкага кола адзінадумцаў. Я спадзяваўся, што параза на выбарах прымусіць фронт да ўнутранага рэфармавання, але ягоны з'езд паказаў, што гэта не так. І тым не менш яшчэ застаецца магчымасць стварэння кааліцыйнай апазіцыі (з удзелам фронту ці без яго) на падставе дзвюх ідэй: незалежнасці Беларусі і запуску рэформ.

**— Не сакрэт, што вельмі шмат у пытанні, ці будзем мы ў наступным годзе і далей святкаваць Дзень Незалежнасці, залежыць ад пазіцыі Расіі.**

— Увесь спектр палітычных партый Расіі — і камуністы, і лібералы — вітае ўсе формы збліжэння з Беларуссю. Адзінае, што можа насцярожыць дэмакратаў, — гэта тое, што аб'яднанне ідзе "на левым флангу". Я пры сустрэчы з Гайдарам паспрабаваў паказаць яму, што падзеі ў Беларусі ўзмацняюць расійскіх камуністаў. А да гэтага ён вітаў аб'яднанне і нават думаў, што дэмакратычныя сілы ў Беларусі таксама выступаюць за аб'яднанне. А што датычыць прамысловага лобі — у "Газпроме", першай транснацыянальнай манаполіі, напрыклад, пачынаюць заўважаць дзіўныя рэчы: набыць літоўскі азот ім аказваецца значна прасцей, чым гродзенскі ў "братняй Беларусі". Таму мне цяжка пакуль ацаніць, што пераважыць у дзеяннях "Газпрома" і ягонага стаўленіка Чарнамырдзіна: праімперскія ідэалагічныя ўстаноўкі або прагматычна-рынкавае стаўленне да Беларусі. Чарнамырдзін у пачатку ягонай кар'еры прэм'ер-міністра не меў магчымасці праводзіць інтэграцыйную палітыку па адной прычыне: яму не хапала 180 трыльёнаў рублёў для падтрымкі інфраструктур Поўначы і Сібіры. Потым ён гэтыя грошы знайшоў. І цяпер усё залежыць ад таго, ці здольны паліўна-энергетычны комплекс Расіі вытрымаць цяжар інтэграцыйных амбіцый. Не адбыўшаеся аб'яднанне грашовых сістэм мела прычынай толькі тое, што ў Расіі не было сродкаў для гэтага. А калі б яны знайшліся? Калі сыравінны комплекс Расіі будзе вытрымліваць цяжар інтэграцыі — яе амбіцыі будуць узрастаць, калі не — Расія будзе тармазіць аб'яднанне. І ў гэтым выпадку Беларусь можа выйграць час і ўмацаваць свой суверэнітэт, калі ж не — інкарпарацыя адбудзецца папросту ў сілу негатоўнасці Беларусі да незалежнага жыцця. Дарэчы, дыспрапорцыя развіцця расійскіх рэгіёнаў цяпер ужо настолькі вялікая, што адсталасць Беларусі ў плане прыватызацыі, фінансавай інфраструктуры і г.д. ужо не будзе кідацца ў вочы, бо і ў самой Расіі ёсць не менш адсталыя рэгіёны.

Цалкам магчыма, што ў складзе Расіі Беларусь будзе вырачана на занядбанне і паступовае выкрэсліванне з гісторыі. І таму вельмі шкада, што тыя сілы, якія ў Беларусі абараняюць незалежнасць, робяць усё, каб гэтая незалежнасць не адбылася.

Ёсць яшчэ адзін фактар, які можа паспрыяць захаванню суверэнітэту. Я маю на ўвазе магчымасць утварэння блока эліты аграрнага комплексу і прамысловасці для ціску на структуры выканаўчай улады. У гэтым выпадку станецца магчымым адступленне ад пэўных схем інтэграцыі з Расіяй, у прыватнасці — ад ідэі агульнай мытнай прасторы, якая досыць моцна б'е па нашай харчовай прамысловасці і ўсёй інфраструктуры сельскай гаспадаркі. Беларусь з'яўляецца не толькі крыніцай сельскагаспадарчай сыравіны для Расіі, мы маем таксама канкурэнтаздольныя на ўсходнім рынку перапрацоўчыя тэхналогіі. Мы можам і павінны скарыстоўваць нашу больш дасканалую, чым у Расіі, інфраструктуру сельскай гаспадаркі для перапрацоўкі заходняй сыравіны (перадусім — для вытворчасці новых і асучасненых прадуктаў харчавання: напояў, кетчупаў і г.д.). Калі ж мытная мяжа Расіі пераносіцца ў Брэст і Гродна, беларуская харчовая прамысловасць губляе тыя перавагі на ўсходнім рынку, якія ёй з больш нізкімі коштамі на заходнюю сыравіну даваў наш суверэнітэт. Карацей, аграрнікі маюць істотныя прэтэнзіі да інтэграцыйнай палітыкі ўрада, хаця і не кажуць пра гэта ўголас.

(Працяг на стар. 6-7)

## ПАСЛЯ БАЛЮ...

# ...інскі
# ...зар

# ...БСК

...,5 тысячаў гасцей з розных краін, у тым ліку каля трохсот
...анслююць і пішуць. Затое аніводнага прадзюсера, які б
...таўніка студыі аудыёзапісу, які б спадобіўся нанесці візіт у
... зорку славянскай эстрады. Хаця за пяць дзён фестывалю
...ва рознамаштабныя мерапрыемствы.

...ы былі па якасці і сэнсу правядзення. Галоўнае — лічба
...ам, відаць, заўсёды па-добраму мала. І калі мы толькі
...іска-беларускую хвалю гнаць перастанем?









Фота Сяргея ГРЫЦА і Г.ЖУКАВА

**Узнагароды**
**"Славянскага базара — 95"**

Гран-пры — Філіп Жмахер, Югаславія;
І прэмія — Наталля Магілеўская, Украіна;
ІІ прэмія — Тэймураз Баджгуа, Грузія;
ІІІ прэмія — Вольга Прадзіна, Расія,
і Тоні Чакыраў, Балгарыя.

**Спецыяльныя прэміі атрымалі:**
— Аксана Ярэшка, Расія;
— Ален, Беларусь;
— Аскольд Сарокін, Расія.

# ЯК «С.Б.» ПРАЕХАЎ МІМА ДЖАЗА

## АРІЯ ПРАДУЗЯТАГА СЛУХАЧА

Люблю я творчыя "тусоўкі". "Славянскі базар" — маштабная "тусоўка", але ідэя яго мне зусім зразумелая, улічваючы прэтэнцыёзную заяўку на глабальнае славянскае дзейства. Славянскае, дзе і канкурсанты спяваюць усялякае на ўсялякай мове, дзе нязменны герой — Махмуд Эсамбаеў, ды ці мала... Не да чысціні расы клікала, але да захавання нацыянальных традыцый. "Славянскі базар" — гэта, хутчэй, акалічнасць месца і часу дзеяння, нейкая астральная дзяржава, дзе адбываецца штосьці. Аднак — "базар", а, значыць, магчыма ўсялякае. Вось мы і бачым усялякае — добрае і рознае.

У стаўленні да якасці для мяне самым каштоўным быў і застаецца джаз-клуб "Славянскага базара". Каюся, кажу прадузята, бо, увогуле, аддаю перавагу джазу перад шматлікімі іншымі музычнымі накірункамі, але каму ж патрэбны — непрадузяты слухач?

Джаз-клуб — гэта цалкам адасоблены куток свету на фестывалі, асабліва начное жыццё, куды не далятаюць фестывальныя прэс-страсці, не пранікаюць паўсюдныя шчупальцы рытма-нажной эпідэміі (я маю на ўвазе дыскатэкі і ўсялякія конкурсы прыгажосці), не актуальны "табель о рангах" (галоўнае — музыка, а ты — альбо ў ёй, альбо...)

Безумоўна, я малюю ідэальную карціну, публіка ж розная і тут бывае, тым больш, — рэстаран. Сюды, як ні дзіўна, прыходзяць і проста папіць-паесці, паразмаўляць і, стаміўшыся альбо своечасова разбіўшыся на пары, — накіравацца ў свае гатэльныя нумары.

А ў джаз-клубе ўжо трэці год пануе санкт-пецярбургскі "Дайджэст" — вакальны квартэт плюс рытм-група. І выбралі гэты калектыў у якасці асноўнага, на маю думку, даволі ўдала.

А між тым кожны прыезд у Віцебск паказвае, што планка ўзроўню прафесіяналізму пецярбуржцаў яўна ўзнімаецца. Усё больш складаным робіцца галасавы ансамбль, больш разнастайным — відэарад, больш шырокім — стылёвы спектр выконваемых імі кампазіцый. Тут і джазавыя стандарты, і папуры з розных мелодый, што гучалі ў былосці, апрацоўка рускіх народных песень (у асноўным а cappella) і класічных твораў. У іх рэпертуары можа, напэўна, з'явіцца што заўгодна, але са "знакам якасці" вышкталцонай, "смачнай" аранжыроўкі. Зусім нядаўна "Дайджэст" заняў І месца ў раздзеле джаза на Усееўрапейскім конкурсе вакальных ансамбляў у Тамперы (Фінляндыя). Ну што яшчэ сказаць?

З шумам і бадзёрасцю запоўніла сцэну джаз-клуба ў адну з фестывальных начэй маскоўская дзетвара — "Клас-цэнтр музычна-драматычнага мастацтва" (мастацкі кіраўнік Сяргей Казярноўскі). Сімвалічная карціна ўзыходжання на джазавы Алімп музыкантаў СНД, якія ўжо палюбілі джаз, але яшчэ не могуць вырвацца з путаў акадэмічнай музычнай адукацыі. Маленькі аркестрык граў Гершвіна і папулярныя лірычныя тэмы, ужо занадта "націкаючы" на характэрныя для джаза сінкопы і акцэнты, але затое з настроем і жаданнем. А вакальны дзіцячы ансамбль — гэта быў дачны варыянт "Вакал-бэнда", вядомага маскоўскага напалову эстраднага, напалову джазавага калектыву, які выступаў у гэтым жа клубе год таму.

Самай "прэстыжнай" джазавай падзеяй быў, безумоўна, творчы вечар Юрыя Саульскага, які прывёз з сабою лепшых маскоўскіх джазменаў — Ігара Бруля, Аляксандра Асейчука, Даніла Крамера. Як вызначыў "віноўнік торжества" — джаз ("прамежкавая субстанцыя паміж класічнай музыкай і рокам" і ўвогуле "дзівосная мажорная музыка"), так і прайшла прысвечаная яму вечарына.

Старт даў Ігар Брыль, які "рассёк" і кампазіцыйна сінкапіраваў вядомую тэму Саммі Колінза.



Кожны выступовец здолеў арганізаваць сваё шоу, але цяжка было спаборнічаць з Даніілам Крамерам, які выкананне чарговай тэмы Саммі Колінза пераўтварыў у сыходную ўдарна-пластычную феерыю.

Але калі адыдзем ад фестывальных захапленняў, дык можна адзначыць, што маскоўскія асы былі да нудоты верныя сабе. Гэта значыць, тым, хто іх слухае дастаткова рэгулярна, было зразумела, што тут не прагучала нічога новага. Адзіны Крамер паспрабаваў вырвацца з замкнутага кола ўласнага стылю і, на радасць публіцы, арганізаваць для яе шоу. Не зусім таксама мне было зразумела, чаму ўсё гэта трэба было лічыць творчай вечарынай Юрыя Саульскага? Калі браць у разлік яго размоўныя сола паміж музычнымі тэмамі, дык ён быў адным з удзельнікаў канцэрта. Ну добра, ці ж мы не прывыклі верыць "на слова" ўсяму, што ідзе ад Масквы?

А як растлумачыць чалавеку, далёкаму ад джаза, што калі В.Б.Феертаг, знакаміты расійскі джазавы крытык, які вядзе праграмы фестывальнага клуба, сядае за раяль і грае ў суправаджэнні рытм-групы "Дайджэст", — гэта падзея гістарычная (гэткага з Феертагам не здаралася ўжо гадоў дваццаць)?

Але, напэўна, самае інтрыгуючае ў існаванні джаз-клуба "Славянскага базара" — гэта тое, што яго быццам бы і не было. Альбо, калі ўлічыць, што фестываль толькі нагода для шматлікіх перадач, артыкулаў, рэпартажаў і г.д., дык джазавую тэму быццам сцёрлі з памяці відавочцаў. Мой голас застаецца адзінокім у плыні пост-фестывальных прэс-рупараў. Каюся, кажу прадузята. Але каму ён патрэбны — непрадузяты слухач?

**Аня АЛАДАВА**



У ПОШУКАХ ІСЦІНЫ

# ХРАМ АБРУЧНІКА І ВАКОЛ ЯГО

ГЭТАЯ дзівосная эпапея распачалася ў ліпені 1780 года, калі Кацярына II распарадзілася ўзвесці ў Магілёве храм св. Ёзафа Абручніка пад наглядам канцлера імперыі графа Аляксандра Безбародкі.

Непасрэднае "смотрение" за будоўляй выконвала магілёўская казённая палата (старшыня віцэ-губернатар Герасім Чэрамісінаў, дырэктар Андрэй Вяроўкін, саветнік Мікалай Ванклярскі, губернскі казначэй Пётр Каўбасаў, асэсары Сцяпан Цэханавецкі і Фама Мурашэвіч). Палата адразу закасала рукавы і выправіла Вяроўкіна ў Маскву шукаць годных майстроў. Тамтэйшыя падрадчыкі загнулі цану. Іх дамаганням уступілі, і Кацярына II 19 ліпеня 1781 года загадала адпускаць на будоўлю звыш 29 тысяч рублёў замест першапачатковай сумы штогод па 14250 рублёў.

Намаганнямі беларускага намесніка З.Чарнышова ўвесь падрад здалі пецярбургскаму купцу Пятру Чыраеву, які меў 110 тысяч уласнага капіталу, а ў Магілёве набыў 4 дамы і 2 лаўкі. Фармальнасці дамовы бакі падпісалі 4 студзеня 1782 года на суму 93438 рублёў на 4 гады пад паручыцельствам стацкага саветніка, старшыні 2-га дэпартамента магілёўскага верхняга земскага суда Антона Валяр'янавіча Макавецкага, пецярбургскіх купцоў Аляксандра Какушкіна, Цімафея Леснікова і Фёдара Мурашэўскага. Макавецкі застрахаваў будоўлю пад залог уласных 1218 прыгонных. Чыраеў адразу атрымаў 77850 рублёў задатку.

У КАНЦЫ жніўня 1782 года Безбародка прысылае ў Магілёў архітэктара Франца Нобеля. Той узяўся паставіць 14 калон дарычнага ордэна з белага дзікага (часанага) каменю насуперак кантракту з той нагоды, што яны ўдвая танней за цагляныя...Парады майстра каштавалі 8860 рублёў. Але ўмяшаўся Мурашэўскі, які абяцаў паставіць калоны за 938 рублёў без усялякага для сябе прыбытку. Царыца належна ацаніла гэтакую ахвярнасць, і Мурашэўскаму 4 жніўня 1782 года выдалі кантракт.

Ледзьве ўдзельнікі будоўлі выцерлі першы працоўны пот пасля размеркавання роляў і грошай, як Чыраеў забіў трывогу. Ён заявіў, што атрымаў толькі палову асігнаванняў, што не можа працягваць працу, бо мае 20 тысяч нядоімкі па піцейнаму водкупу з-за затрымак тых сродкаў палатай, што перарасходаваў уласных 16 тысяч на ўзвядзенне вучэльні і ўціхамірвальнага дома. Новы намеснік Пётр Пасек у кастрычніку 1784 года загадаў архітэктару зрабіць пераразлік, унесці піцейныя нядоімкі купца з рэштак (35588 руб.) будаўнічай сумы. Палата запэўніла начальства, што выдала купцу 20 тысяч, абавязаўшы яго завяршыць працу да лета 1785 года.

Чыраеў вытарашчыў вочы, якія ніколі не бачылі тых грошай, бо палата на справе аддала грошы надворнаму саветніку Міхаілу Мурашэўскаму, сябру Чыраева па піцейнаму водкупу. Чыраеў кінуўся да праезджых сенатараў А.Нарышкіна і А.Варанцова з хадайніцтвам вярнуць яму 76 тысяч рублёў страт разам з даўгамі іншых асоб, у тым ліку і Пасека. Сенатары павезлі скаргу да Безбародкі, а Чыраеў тым часам абвясціў страйк да тых пор, пакуль яму не вернуць выдаткаў.

Члены казённай палаты на пасяджэннях 10 і 16 верасня 1785 года рашылі выдаваць купцу грошы "смотря по работе". Ды толькі праца стаяла, бо паўгода чакалі глобус на царкоўны купал ад тульскіх падрадчыкаў Гнідзіна і Масленнікава. Прайшло і лета. Мурашэўскі, пасланы Чыраевым па жалезныя краты, ваконныя пераплёты, пазалочаныя шары і дошкі, нібы дым, згінуў у глыбі Расіі.



З ім зніклі і грошы. Тады палата прыгразіла паручыцелям, што скасуе кантракт і сама завершыць будоўлю. Напалоханы пагрозай арышту закладзеных пад будаўніцтва маёнткаў, Макавецкі закідаў Сенат маленнямі вызваліць з-пад залогу хаця б чатыры вёскі, каб прадаць іх і кампенсаваць страты.

Гэта пагражала Чыраеву зусім застацца без паручыцеляў і весці будоўлю цалкам за ўласны кошт. У Сенат паляцелі адчайныя енкі аб купецкім жабрацтве. Бо ён спустошыў свой капітал пасля загаду новага архітэктара Зэйдлера ўзвысіць фасад, вырыць катлаван пад царкву, правесці вадасцёк праз вуліцу і класці ў калоны жалезныя звязкі з просвамі. Стратныя пераробкі павялічыў той жа Нобель, які 12 ліпеня 1784 года з дазволу Безбародкі зрабіў падлогу цаглянаю, бо "от сырости пола мрамор испортится и глянец исчезнет", што жалезным дзвярам " подобает быть в погребах, а в церквах неприлично", што жалезныя кроквы небяспечныя, што ў ваконцах купала ўсё трэба зрабіць драўляным з медным пакрыццём самога купала. Пасек, адсылаючы гэтыя прапановы Безбародку, нават раіў падлогу зрабіць дубовую! З усім гэтым пагадзілася Кацярына II. 5 студзеня 1785 года чарговы архітэктар Барэлі дадаў яшчэ страт на 8 тысяч рублёў загадам зламаць агароджу. Віцэ-губернатар прыпыніў будоўлю вучэльні і ўціхамірвальнага дома.

Давялося апраўдвацца. Барэлі адказаў, што зламаў толькі 3 сажні (2,1 м) агароджы з-за пагрозы "размытия водой стены" казённай палаты. Рабочыя ўсё лета лайдачылі і зрабілі адно 3 вакны з 10-ці. Працавалі толькі пяць тынкоўшчыкаў — "простые, кои не умели зделать ни триглифов, ни полос в колоннах". Да таго ж яны рабілі простую тынкоўку, якую тут жа распісвалі фарбамі. А пра тульскія рэчы, маўляў, Чыраеў адныя "басни распустил". Барэлі прасіў аддаць яму грошы, каб набыць дровы і свечы для ўласнай кватэры.

ЗВАДКІ бакоў прынялі такі абарот, што ў ліпені 1785 года Чыраева хацелі забіць не то М.Шыпнеўскі, не то гараднічы Аляксей Кралеўскі. Здарэнне перадалі на разгляд павятовага суда, а потым генерал-пракурора Сената. А.Вяземскі рашэннем ад 28 мая 1786 года загадаў не валаводзіцца са следствам, бо "смотрение за всем было слабое, а строение и совсем без фундамента". Кацярына II аддала будоўлю на рэвізію, бо "без ревизий сумнительно приводить сие строение к окончанию, дабы оное по худой его прочности преждевременно не развалилось и людям не могло причинить бедствия".

Удзельнікі не горш за клопаты пра пабудову ўзвялі муры ў абарону ўласнага гонару. У чэрвені 1786 года Чыраеў піша, што Мурашэўскі "растащил его имение и корыстуется его деньгами". Казённая палата сцвярджае, што купец — невычэрпны валакітчык і кепскі падрадчык. Умовы кантракта, маўляў, не выканаў Чыраеў "по недосмотру поручителей". Значыць, апошніх трэба прымусіць дабудоўваць царкву за ўласныя сродкі. 13 чэрвеня палата секвестравала маёмасць паручыцеляў. Чыраева пасадзілі за краты і забаранілі наогул дапускаць яго да падрадаў. Ад такога рашэння паручыцелі залілі слязьмі свае скаргі ў Сенат. Паверавы Макавецкага кватэр-майстар лейб-гвардзейскага палка Восіп Падчашынскі назваў палату крыніцай бедстваў, чыны якой прагнуць ухіліцца ад адказнасці.

31 жніўня 1786 года маскоўскія сенатары вырашылі "взыскать с кого следовать будет", дзеля чаго разгледзець законнасць усіх прэтэнзій. 2 верасня Кацярына II прызначыла рэвізію на чале са стацкім саветнікам з экспедыцыі аб дзяржаўных даходах Львом Ялагіным. У дапамогу яму далі майстра Людвіка Брыля ( з канторы будаўніцтва дамоў і садоў), архітэктара надворнага саветніка Пятра Патона, калежскага сакратара Мікалая Краснога і сенацкага рэгістратара Дзмітрыя Мятліна. На 18 вазах яны прыбылі ў Магілёў.

Дарэмна Чыраеў даказваў, што ўзводзіў уціхамірвальны дом "из единого усердия", што ўсе будаўнічыя матэрыялы "растащены каждым кому понадобится", што да гэтага часу архітэктара "ниотколь не было, а собственно оное (будаўніцтва) оставалось без всякого начала при праздности всех мастеровых людей и каменного дела работников", што яго трымалі і нават білі ў турме "единственно ни почему другому, как только по поводу отыскиваемых долгов моих". Будаўніцтва ён назваў прымусам, Пасека — уласным ганіцелем, якому аддаў апошнія грошы для аплаты даўгоў. Каб не было сумневу адносна ягонай стараннасці, ён прыклаў падрады на ўзвядзенне купала, заключаныя са старшынёй слясарнага цэха Пятром Бутонам і вяземскім купцом П.Зуевым.

Сваё заключэнне Ялагін падаў 1 снежня 1786 года. У ім даводзіў, што акрамя развааленай агароджы заспеў царкоўны будынак у цэласці. Ён абвінаваціў казённую палату ў парушэнні ўмоў кантракта і ў тым, што яна прыхавала 17623 рублі на ўзвядзенне калон. На яго думку, уся праца звялася да "единой только переписки, следовательно, той остановки и быть не могло". Парушэнні выявіліся ў наступным. Царква была ўзведзена на аршын і 8 вяршкоў (1 м 8 см). Унутраныя калоны пастаўлены на цокалі, а не на базе. У трапе-

# ДУМАЦЬ БЕЛАРУСЬ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3)*

Аграрнікі зараз уяўляюць сабой вялікую палітычную сілу: яны перамаглі на вясенніх выбарах і, незалежна ад вынікаў восеньскіх, будуць складаць адну з наймацнейшых фракцый у парламенце. У прадстаўнікоў прамысловага лобі шанцаў прайсці на восеньскіх выбарах столькі ж, колькі ў БНФ — блізка да нуля. Таму прамыслоўцы гатовы ці будуць змушаны пагадзіцца на ініцыятыўнае лідэрства аграрнікаў. Беларускія аграрнікі не такія простыя, як можа падацца, і, ва ўсялякім выпадку, яны настроены не прапрэзідэнцку.

**— А мне здавалася, яны падтрымліваюць прэзідэнта?**

— Гэта тыповая галіновая фракцыя, а значыцца дэідэалагізаваная. Але аграрнікі вымушаны лічыцца з настроямі простых сялян, сярод якіх жывуць, а тыя ва ўсім пагаджаюцца з Лукашэнкам. І таму яны ніколі не пойдуць супраць прэзідэнта на ўзроўні тэлеэкрана. Так яно ўсё нібыта і застанецца, як ёсць. Але гэта не значыць, што аграрнікі падтрымліваюць усе дзеянні кіраўнікоў дзяржавы, гэта далёка не так. І, дарэчы, прэзідэнт зараз вельмі нервуецца, бо вынікі выбараў яго не задавальняюць ніякім чынам.

**— Каго ж ён хацеў бы бачыць у парламенце?**

— Ён хацеў бы бачыць парламент увогуле без якіх-кольвек фракцый, падобным да папярэдняга складу парламента, дзе не было ніякіх істотных сіл з уласнымі інтарэсамі. А цяпер там ужо ёсць два моцныя вектары: аграрнікі і камуністы. У мінулым складзе абсалютная большасць не мела ўласнага твару і папросту прымала тыя рашэнні, якія здаваліся найбольш простымі, прымітыўнымі. Таму прэзідэнт цяпер не робіць ніякіх рашучых крокаў у эканоміцы, чакаючы вынікаў восеньскіх выбараў.

Такім чынам, палітычным партыям, зацікаўленым у захаванні суверэнітэту Беларусі, неабходна падтрымліваць саюз аграрыяў і прамыслоўцаў. І дзесьці на ўзроўні пазваночніка Пазняк гэта адчувае, таму ён ужо выступіў з заявай супраць таго, каб прэзідэнт вініваціў у крызісе дырэктараў заводаў. А тыя дырэктары, дарэчы, цяпер сядзяць і чакаюць, трымаючы свае прадпрыемствы ў "чорным целе", калі ж тут нарэшце пачнецца нейкая асэнсаваная прыватызацыя, каб акцыянаваць і выкупіць свае заводы па самых нізкіх коштах. Таму сёння ніводны дырэктар (апрача хіба манапалістаў) не падпісвае ніводны кантракт, здольны падвысіць рэнтабельнасць прадпрыемства. А калі ім дазволяць прыватызаваць заводы — яны адразу запусцяць тыя схемы, якія дазваляюць іх зрабіць прыбытковымі. І прэзідэнт усё гэта цудоўна разумее, але што ён можа цяпер парабіць?

Увогуле, ён трапіў у тупіковую сітуацыю. З аднаго боку, Лукашэнка робіць нібыта ўсё магчымае для інтэграцыі з Расіяй, а з другога, мяркую, ён ужо дастаткова адышоў ад эйфарыі з нагоды таго, што можа стацца расійскім губернатарам, а затым прэзідэнтам. Яму ўжо далі зразумець, што расійскія спецслужбы маюць такую праграму работы з Беларуссю на выпадак яе поўнай інтэграцыі з Расіяй, каб губернатарам стаўся наш былы прэм'ер Кебіч.

**— Дзе павінна Беларусь шукаць сваё "месца пад сонцам": у складзе Расіі, СНД, аб'яднанай Еўропы?**

— У Беларусі шмат адукаванай інтэлігенцыі, якая сочыць за палітыкай і геапалітычнымі "гульнямі" з пазіцыі балельшчыкаў і каментатараў, не беручы ніякага ўдзелу ў самой гульні. Такія "кампетэнтныя" знаўцы гульні іранічна ставяцца да палітычных дзеянняў БНФ і ягонага лідэра Пазьняка, пакепліваюць над спробамі фронту ўключыцца ў еўрапейскія працэсы, дзе гуляюць такія гранды, як Германія, Францыя, Расія. Я ж з павагай стаўлюся да Пазьняка, бо ён адзіны (з тых, хто навідавоку) у гэтай краіне спрабуе гуляць самастойна і гуляць "у Беларусь". Не страляйце ў піяніста, ён іграе як умее. Хто можа гуляць — выходзьце на "поле". Кебіч нават не спрабаваў гуляць усур'ёз: імкненне ўладкавацца ў расійскую каманду — гэта не гульня. Лукашэнка — гулец непрадказальны, але гуляе індывідуальна, без каманды. Апрача таго, яму бракуе "школы" і "тэхнікі". Першы раунд унутры краіны ён выйграў як навічок дзякуючы непрадказальнасці і сімпатыям гледачоў. Далейшае залежыць не толькі ад яго: прэзідэнтаў, як і каралёў, іграюць світы і каманды.

"Кваліфікацыйная гульня" Рэспублікі Беларусь за выхад у "Еўрапейскую лігу" яшчэ толькі пачалася. Было б шкада, калі б яна скончылася гэтак жа безвынікова, як атрымалася з Беларускай Народнай Рэспублікай, або прывяла б да "дыскваліфікацыі", як у выпадку ВКЛ у "камандзе" з Рэччу Паспалітай. Хаўруснікаў і партнёраў трэба выбіраць з перспектывай на выйгрыш. Ці ёсць такая перспектыва ў Каманды СНД? Гэта яшчэ трэба прааналізаваць.

Апрача таго, некаторыя палітыкі схільныя ўспрымаць СНД як самастойную "лігу" ці "федэрацыю", а не як зборную каманду (пры гэтым сабраную ў спешцы і блага сыграную) для ўдзелу ў еўрапейскім "чэмпіянаце". Калі пераможа арыентацыя на СНД, Беларусь рызыкуе назаўсёды застацца "дваровай" камандай, пра якую ў Еўропе ніхто не будзе ведаць. Беларусі прапанавана гуляць у еўрапейскай "лізе", няўжо ж мы адмовімся і аддамо перавагу "забіванню казла" ў ціхім дворыку па адрасе "не дом і не вуліца..."?

**— Ці Вы згодны, што беларусы не стануць еўрапейскай нацыяй, пакуль на змену інтэлігенцыі не прыйдуць інтэлектуалы, мэтай якіх будзе не абарона рэштак духоўнасці продкаў, а стварэнне высокіх тэхналогій духу?**

— У духоўнай сферы гіпертрафаванае месца займае паэзія. Беларусь апяваюць, ваяюць, танцуюць, ахінаюць у гіпербалы і метафары. Яе ўслаўляюць або, наадварот, лаюць, але не будуюць, не вырошчваюць, не культывуюць. Чаму? Таму што не думаюць. Не думаюць Беларусь. Пісьменныя людзі скажуць: думаць — непераходны дзеяслоў, думаць Беларусь нельга, можна думаць пра Беларусь. Але з гэтым нібыта слушным меркаваннем нельга пагадзіцца. Думаюць пра Беларусь многія. Думаюць пра тое, як вы-

## У ПОШУКАХ ІСЦІНЫ

знай адсутнічалі дзве нішы. Два дамы для прычту паставілі не ў завулку, а насупраць царквы. Акрамя цокаля, лесвіц і ўваходаў усё зрабілі з цэглы. 14 пярэдніх калон зрабілі не паводле плана, а па асобнай запісцы. Трубы вывелі звонку, зямлю з-пад падмурка не вывезлі, а засыпалі ёю канал, з-за чаго і з'явілася цеча. Аднак падмурак не размыла...

Мудрагелістае заключэнне Ялагіна Сенат разблытваў ажно на чатырох пасяджэннях. Урэшце ўсю віну ўсклалі на Барэлі і ў многіх выпадках на казённую палату, з чыноў якой спагналі 645 рублёў штрафу. Чыраеву адмовілі ў прэтэнзіях на 23 тысячы рублёў, бо ён перарасходаваў толькі 4893 рублі. Усе затрымкі аднеслі да яго "оплошности и нерадения" і празмерныя дамагацельствы па завышаных цэнах на матэрыялы. Ялагін нават раіў вылічыць з купца 6570 рублёў за цагляныя калоны. Але паколькі палата склала кантракт гэтак жа "двоемысленно", то штрафы вырашылі раскласці паміж вінаватымі. Зразумела, сярод апошніх не аказалася саноўных асоб . Будоўлю пакінулі пад апеку Чыраева і ранейшых яго паручыцеляў пры ўмове лепшага дагляду. Маёнтак Макавецкага вызвалілі з-пад арышту.

ПАСЛЯ гэтага палата стала чакаць архітэктара і вырашыла выдаць грошы таму, у каго будуць куплены матэрыялы і хто закончыць працы.

13 мая 1787 года Чыраеў заключыў дамову на вытворчасць мармуру з іераманахам мсціслаўскага манастыра Якавам Леташынскім і мсціслаўскім шляхцічам Сцяпанам Пракаповічам. Замест архітэктара мармур сведчыў і знайшоў "худым" асэсар палаты Вісарыён Паўлаў. Тады Чыраеў дамовіўся з селянінам графа П. Паніна, да якога пацяклі і грошы. У сваю чаргу палата абняславіла прадстаўленыя абразы. У прыватнасці, ікону св. Стэфана на меднай дошцы сведчылі В.Паўлаў, адстаўны падпаручнік Міхаіл Браховіч і памешчык Цімафей Сілініч. Гэтыя мастацтвазнаўцы знайшлі, што абраз "без пропорции и не только не подходит на итальянскую живопись, но и простой живописной работе ни мало не соответствует". Як ні пярэчыў Чыраеў на тую экспертызу, але сенатары параілі яму ўстрымацца "от ослушания правительству" і завяршыць пабудову хаця б да пачатку 1788 года.

Новы, 1788 год распачаўся тым, што Кралеўскі пасадзіў у ўціхамірвальны дом майстроў. Астатнія, як пісаў Чыраеў, ад страху разбегліся, а "кто вновь придет, тех бьют". Яго зноў у адной кашулі кінулі ў турму. Адтуль ён настрачыў царыцы скаргу алоўкам на простай паперыне. Кацярына II выправіла спецыяльнага кур'ера вызваляць пакутлівую душу. Пасек мусіў апраўдвацца тым, што Чыраеў чыніць "бесчинства и ложныя соплетения, всем грозится, наносит несносныя досады и оскорбления, понося грубым образом честь невинных людей, употребляя такие ругательства, что сама благопристойность воспрещает изъяснить слова его, рассеивает по улицам злословие и ложь и никому, кроме Сената, не повинуется".

Сябра Чыраева Ц.Леснікоў абвінаваціў таго ў прысваенні 5 тысячаў рублёў. Макавецкі рашуча забараніў выдаваць купцу грошы як банкруту і папрасіў палату ўзяць дабудоўлю на сваю рызыку. Тая на пачатку 1789 года паведаміла, што царква развальваецца, што вапна стала непрыдатнай, што алебастр (1120 пудоў) "в великом множестве растаскивается солдатами" гараднічага Кралеўскага, з хлява выцягнулі ўсе матэрыялы няведама хто, дошкі пагнілі. Салдат пасадзілі пад каравул. У адказ "каравул" закрычаў гараднічы, які назваў тую заяву хлуснёй. Скаргі Чыраева Сенат пакінуў без увагі. Пошукі архітэктара ў Маскве і Пецярбургу завяршыліся тым, што толькі 6 кастрычніка 1789 года Безбародка прыслаў нейкага Мінеласа, які паспеў паставіць на купал глобус і крыж. 4 снежня палата сама ўзялася за будоўлю, бо Чыраеў закінуў справы і вёў адны "затейныя жалобы". Чыраеў ізноў трапіў у турму, дзе праседзеў да ліпеня 1791 года.

АДНАК замест працы палата занялася спрактыкаванай папяровай пісанінай, бо жадала за рэшткі грошай пабудаваць у першую чаргу ўціхамірвальны дом. 24 красавіка 1791 года Сенат нават думаў прадаць каменную вучэльню, каб узяць належныя сродкі на пагашэнне нядоімак. Занепакоены Макавецкі патрабаваў выдаць яму грошы з піцейнага водкупу. Але ж тады рабілася немагчымым скасаваць тыя нядоімкі. Толькі ў верасні 1792 года Пасек надумаў, што немагчыма спагнаць грошы з членаў палаты з-за мізэрнасці іх платы. Ён раіў шукаць сродкі ў іншым месцы. Сенат загадаў спагнаць іх з членаў палаты і Чыраева. Апошні ізноў паскардзіўся, што грошай яму не выдаюць і няма чым завяршыць пабудову. На двары стаяў жнівень 1793 года. З будаўнічай пляцоўкі толькі-толькі вывезлі зямлю...

Бюракратычны калаўрот настолькі задурыў галовы начальства, што яны шукалі розныя зачэпкі, каб пазбавіцца ад гэтае мазольнай справы. У студзені 1793 года шляхціч Франц Маўчынскі папракнуў Чыраева ў атэізме. Магілёўскі губернатар Сяргей Вязьмецінаў, маючы абавязак "блюсти и охранять", асабіста дапытаў даносчыка. Высветлілася, што хулу на Бога купец узвёў у хаце шляхціча Івана Антукевіча ў прысутнасці рэгістратара К.Яснапольскага, яўрэя Нахіма Вульфавіча і маладзіцы Разаліі Казырскай. На вячэры яны гутарылі аб арышце вядомага рускага асветніка і масона М.Новікава. Тады Чыраеў і сказаў:"Дурак Новиков, если б ему (купцу. — А.Я.) человек тридцать, то вся бы Россия затрепетала. Но по сему его сигналу никто голос не подал к партии его пристать, все умолкли. А Мовчинский, не стерпя сего, скзал, что таких умеют пребирать кнутом". Давялося суразмоўнікам даведацца, колькі вёрстаў ад Магілёва да Масквы. Перад светлымі вачыма генерал-пракурора Сената Н.Вульфавіч удакладніў, што Чыраеў часта называў Антукевіча масонам ("ты и масон и беден, какое ето масонство, ежели б я был масоном, то вспомоществовал бы таким, как ты"). Калі ж Чыраеў сказаў, што масонаў хутка выганяць з Расіі, то Антукевіч адказаў, што выдаляць не масонаў, а марціністаў. Нехта з уплывовых царадворцаў назваў данос як учынены "по злобе" на купца. Спецыялістаў у адценнях масонства адпусцілі з падпіскай трымаць язык за зубамі.

ПАСЛЯ гэтага справа з будаўніцтвам царквы св. Ёзафа Абручніка знікае з кругаверці аматараў ласавацца лёгкімі грашыма. Толькі кароткі час яна праляжала ў нябыце. На пачатку 1797 года ўжо новы цар Павел I пусціў яе па новаму кругу, бо занёс сякеру апалаў на матчына атачэнне, якое спрычынілася да таго будаўніцтва.

**Яўген АНІШЧАНКА,**
**кандыдат гістарычных навук**

*На здымку: граф Аляксандр Безбародка.*

---

везці з краіны тое, што тут таннае, і прадаць гэта там, дзе яно дарагое. Думаюць пра тое, як схаваць грошы, зробленыя ў Беларусі, таму што ўкладваць іх тут няма куды, а захоўваць небяспечна. І шмат усялякіх іншых роздумаў бывае пра Беларусь. Думаюць нават пра тое, як стаць прэзідэнтам краіны, якую не мысляць краінай. Думаюць пра тое, як пазбыцца суверэнітэту і адказнасці за сваю дзяржаву. А трэба думаць Беларусь: чым яна ёсць, як яна ёсць, як і якой яна павінна быць.

З чаго Беларусь можа пачаць "быць"? З таго, што яе пачнуць думаць. Кампаніі Касцюшкі і Каліноўскага з Урублеўскім пацярпелі паразу не таму, што іх не падтрымалі сяляне, а таму, што не былі забяспечаны творчым інтэлектам. Вайну ў Еўропе не можа выйграць бок, які ваюе за аднаўленне "леташняга снегу". Для перамогі неабходна перспектыва будучыні. А будучыню нельга праспяваць і пратанчыць, яе трэба прадумваць і праектаваць. Беларусь мысліцца ж толькі як еўрапейская краіна і не мысліцца як улус Арды. Еўропа можа прасунуцца на ўсход толькі праз узнікненне еўрапейскіх краін Беларусі і Расіі. Перспектыва будучыні для Белаурсі — гэта будучыня ў Еўропе.

Жаўнеры Касцюшкі гінулі "За нашу і вашу свабоду". Беларусь свабодна стацца еўрапейскай краінай і несвабодна, прымушана заставацца ў азіятчыне. Трэба спраектаваць свабоду ў Беларусі і прамысліць умовы яе рэалізацыі. Спачатку свабодным робіцца мысленне, потым яно вызваляе і ўсё астатняе. Але мысленне не можа не быць свабодным, інакш гэта ўжо не мысленне. Спяваць з чужога голасу і чужымі словамі можна, але мысліць нельга.

Калі Беларусь несвабодная ў выбары шляху свайго развіцця — значыцца, яе мысленне несвабоднае ў асэнсаванні гэтага шляху, яна сама не свабодная мысліць і,значыцца, яна не мысліць увогуле. Жаўнеры Касцюшкі памiралі "За нашу і вашу свабоду". Калі яны загінулі не дарма, то жыць трэба "За нашае і вашае мысленне".

---

*З некаторымі меркаваннямі Уладзіміра Мацкевіча можна і не пагадзіцца: кожны з нас мае права "думаць Беларусь" па-свойму. Але рэч не ў гэтым. Найбольшую цікавасць для нас уяўляе не светапогляд, а грамадская пазіцыя гэтага чалавека. Уладзімір мог бы займацца чыстай навукай — метадалогіяй і псіхалогіяй, але выбраў кансалтынгавую дзейнасць у галіне палітыкі і фінансаў, бо менавіта яны цяпер апанавалі свядомасць грамадства, тут нам баліць найбольш. І мэта яговых намаганняў — узняць беларускі бізнес і беларускую палітыку да сусветных стандартаў. А без гэтага ці захавае наша кволая дзяржава сваю незалежнасць?*

*Ва ўмовах развалу СССР, а потым — нацыянальнай эканомікі Мацкевіч не толькі захаваў уласны інтэлект — ён намагаецца інтэлектуалізаваць беларускую эканоміку, палітыку і культуру. А тымчасам пераважная большасць нашай інтэлігенцыі альбо зусім кінула інтэлектаёмістую працу і занялася дробным бізнесам, альбо сядзіць на жабрачых заробках, грэбуючы палітыкай і рынкавай культурай, спадзеючыся, што ўсе праблемы неяк вырашацца самі. Вось на такой глебе, дарэчы, і вырастаюць рознага кшталту самасці без розуму і адукацыі, растуць яны хутка і вельмі высока...*

# "ВЫХАДЗІЛІ КАЗАЧЭНЬКІ Ў ПАХОД..."

***Пра жаўнерскі фальклор і не толькі распавядае журналіст Уладзімір Панада***



**— Уладзімір, наша сустрэча адбылася з аднае канкрэтнае нагоды. Тым часам як беларускасць толькі яшчэ робіць сціплыя крокі (ці хутчэй — рабіла да некаторага часу) да ўваходжання ў армейскі шыхт, Вы разам з паплечнікамі апякуецеся справай адраджэння беларускай вайсковай песні. Нават, здаецца, сабралі цэлы адпаведны зборнік. Няўжо Вы лічыце, што менавіта сёння гэта патрэбна ў першую чаргу?**

— Адразу скажу, што я не маю паплечнікаў і не імкнуся адрадзіць беларускую вайсковую песню. Што датычыцца збору песень, дык ён сапраўды існуе. Думаю, гісторыя яго стварэння і будзе адказам на Ваша пытанне.

Сярод рэчаў якімі я цікаўлюся — беларускі песенны фальклор. Я маю на ўвазе не тыя песні, што падчас урадавых канцэртаў выконваюцца заслужанымі дзеячамі мастацтваў, а тыя, што яшчэ спяваюць у вёсках старыя людзі, далёкія ад філарманічнай культуры ці клубнай самадзейнасці. Дык вось, сярод гэтых песень — сапраўды народных, створаных сотні гадоў таму, мне даводзілася сустракаць і тыя, у якіх згадваецца тэма вайны. Гэта выклікала маю цікаўнасць. Бо змест гэтых песень — падкрэслю, вельмі старых — ніякім чынам не адпавядаў трактоўцы гістарычных падзей у нашым краі савецкай гістарыяграфіяй. Напрыклад, словы казацкай песні, запісанай на Гомельшчыне —

*Выхадзілі казачэнькі ў паход на маскалі,*
*А за імі маёнтачкі агнём і запалалі...*

— ніяк не стасаваліся са створаным падручнікамі гісторыі вобразам беларусаў — ціхмяных і прыбітых сялян, якія ўсё жыццё прагнулі аднаго — далучыцца да сваіх старэйшых братоў на Усходзе. Хутчэй, наадварот. Адсюль і пайшла мая цікаўнасць да гістарычных салдацкіх песень.

Ведаеце, археолаг Шліман адшукаў зруйнаваную тысячагоддзі таму Трою, карыстаючыся звесткамі з эпасу Гамера. Так і для мяне народныя песні вайсковай тэматыкі сталі крыніцай звестак аб падзеях гісторыі Беларусі. Бо фальклору, на мой погляд, варта давяраць больш, чым афіцыйным хронікам. Летапісы пішуцца на загад уладароў і прадстаўляюць гістарычныя падзеі з іхняга пункту гледжання. А гістарычныя песні — тым больш ваенныя — адлюстроўваюць стаўленне да рэчаіснасці тагачаснага грамадства, народа, які іх стварыў. Таму, дарэчы, у іх бывае шмат патрыятызму ці зухаватасці, але няма захаплення вайной, якое сустракаецца ў сучасных аўтараў.

На пытанне аб зборніку і яго сённяшняй актуальнасці адкажу: ідэя яго стварэння ўзнікла ў час вельмі недарэчны — чатыры гады таму, калі існаванне СССР было рэальнасцю. Тады ў Слуцку, падчас святкавання 70-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну я сустрэўся з людзьмі, якія прапанавалі мне дапамогу ў выданні падобнага зборніка. Ён быў хутка складзены, але свету не пабачыў. Застаўся толькі гатовы да друку арыгінал-макет. Думаю, што тады патрэба ў існаванні падобнага выдання была большай. Цяпер жа існуе беларускае Міністэрства абароны, якое мусіць займацца падобнымі справамі.

**— Раскажыце, калі ласка, пра крыніцы. Адкуль Вы бралі тэксты, музыку?**

— Ад выканаўцаў. Ад людзей, якія ведалі і спявалі гэтыя песні. Часам гэта адбывалася нечакана. Памятаю, калісьці ў Варшаве я размаўляў з адным палякам — старым чалавекам, які нарадзіўся і вырас тут, на Лідчыне. Мы сядзелі ў цесным гатэльным пакоі, і ён ціха спяваў песню, якую помніў з часоў сваёй маладосці:"Дык у шчасны дзень пагодны, ці ў буры дні благім знайма першы кліч народны: Беларусь перадусім!" У БССР гэтая песня была забаронена, яе аўтара называлі здраднікам. Але ж яна была напісана ў час другой сусветнай вайны як супрацьвага вядомай "Дойчлянд, Дойчлянд юбер алес"!

Адны з сабраных мной песень былі створаны стагоддзі таму. Іх тэкст і ноты запісваліся ў тым выглядзе, у якім яны дайшлі да нашага часу ў памяці людзей. Тэксты і музыка іншых былі створаны ўжо ў гістарычны час — у XVII, XIX, XX стагоддзях і аўтары іх вядомыя. Сярод іх — Янка Купала і ўдзельнік Слуцкага паўстання Алесь Змагар, сучасныя барды Сяргей Сокалаў-Воюш і Андрэй Мельнікаў.

**— За плячыма ў Вас пэўная праца, можна рабіць нейкія высновы. Ці можна, на Ваш погляд, гаварыць пра пэўныя традыцыі беларускай вайсковай песні?**

— Беларуская вайсковая песня, роўна як і нацыянальнае войска і беларуская дзяржава, паўстала не ў дзень абвяшчэння незалежнасці тры гады таму. На працягу соцень гадоў нашыя продкі са зброяй у руках баранілі сваю краіну, і ў песнях захавалася памяць аб гэтым. І, дарэчы, калі ўжо гаварыць аб традыцыях, дык на працягу апошніх двух стагоддзяў іх трэба звязаць з нацыянальнавызваленчым рухам. Бо практычна ўсе беларускія вайсковыя песні гэтага часу — песні паўстанцкія. Яны — памяць аб паўстаннях 1794, 1831, 1863 гадоў, памяць аб Слуцкім паўстанні 1920 года, аб арміі генерала Булак-Балаховіча і нават аб Беларускай Краёвай Абароне.

**— Уладзімір, але пагадзіцеся, што аўтаматычна на сучасныя жыццёвыя рэаліі досвед пачатку ці нават сярэдзіны стагоддзя перанесці нельга...**

— Гэта залежыць ад таго, што называць жыццёвымі рэаліямі. Рэальнай патрэбай кожнай дзяржавы ёсць неабходнасць абароны войскам яе адзінства і незалежнасці. І гэта — тэма пераважнай большасці вайсковых песень незалежна ад таго, калі яны былі напісаны — у наш час ці трыста гадоў таму.

Канешне, сёння камусьці не спадабаецца тое, што ў тэксце, напісаным у XVII стагоддзі, варожым называецца Маскоўскае царства. Але ж чыя армія ў той час вынішчыла 80 працэнтаў жыхароў на ўсходзе нашай краіны? Гэтым людзям падам за прыклад суседнюю Расію. Яна мае цудоўныя адносіны з Германіяй, але ў кожным расійскім школьным падручніку крыжакі называюцца не інакш, як "псы-рыцары". Татарстан з'яўляецца федэральнай часткай тае ж Расіі, але ніхто не саромеецца называць тры стагоддзі татарскага панавання на Русі "ігам". І нікога гэта не абражае!

Вывучаючы ўплыў гісторыі на сучаснасць, мы мусім адрозніваць такія паняцці, як рэваншызм і гістарычная памяць. Фальклор — гэта і ёсць скарбонка нашай памяці. А з песні, як вядома, слова не выкінеш.

**— Ці знаёмы з Вашай працай, скажам так, "збройныя спецыялісты"? Я маю на ўвазе музыкантаў, выканаўцаў... Бо ж мастацкія калектывы, і вельмі прафесійныя, існуюць і ў Збройных Сілах Беларусі...**

— Прафесійнасць вайсковых музыкантаў і спевакоў не выклікае сумневу. Але я ніколі не збіраўся прапаноўваць ім да выканання песні са зборніка. На гэта ёсць свае прычыны. Так, я трываць не магу, калі народная песня спяваецца артыстам з оперным голасам, які не мае ніякага ўяўлення аб стылі яе выканання. Народныя песні складаліся для выканання ўласнага, а не перад публікай. У поўнай меры гэта датычыць салдацкага фальклору, змест якога часам занадта просты і непасрэдны, каб гучаць у вялікіх залах. Але на тое, што гэтыя песні маглі б спяваць не прафесійныя выканаўцы, а проста сённяшнія салдаты, я таксама не спадзяюся. Бо, як мне падаецца, густы людзей, якія вызначаюць армейскі рэпертуар, сфармаваліся пад уплывам традыцый не беларускай культуры, а Савецкай Арміі. А традыцыі савецкага вайсковага патрыятызму блага сумяшчаюцца з ідэямі барацьбы за вызваленне свайго краю, якімі прасякнуты беларускія жаўнерскія песні.

А выканаўцы — пераважна непрафесійныя — з гэтымі песнямі знаёмыя. Я ўжо казаў, што кожную з іх я чуў у жывым выкананні. Існуе нават свята — бардаўскі фэст, які адбываецца штогод пад Оршай. На ім выконваюцца новыя песні, успамінаюцца старыя. А ў тым што з імі не знаёмыя вайскоўцы, хутчэй не мая віна, а іхняя бяда. Бо песні, якія спявалі падчас паходаў ваяры Вялікага княства Літоўскага, перажылі і самое княства, і Рэч Паспалітую, і Расійскую імперыю, і Савецкі Саюз і, можна быць пэўным, перажывуць і ансамбль песні Міністэрства абароны Беларусі. Ведаюць кіраўнікі нашай арміі культуру свайго народа ці не — на мой погляд, неістотна. Яна існуе і будзе існаваць незалежна ад іх.

**— Магчыма, Вашай працай зацікавіцца хтосьці з выдаўцоў?**

— Не думаю. Падобнае выданне не дасць прыбытку і менавіта таму яго не змаглі надрукаваць прыватныя выдаўцы. Наўрад ці падобная кніжка зацікавіць і ўрадавае, тым больш армейскае выдавецтва. Ды гэтыя песні і не патрабуюць быць пераведзенымі на паперу. Яны жывуць у памяці людзей.

**Гутарыў Янка НЯВОЛІН**

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

У № 26 за 19 — 25 ліпеня г.г. "Культура" змяшчала матэрыял пра жыццё выдатнага мастака ў маёнтку "Здраўнёва". Сёння мы расказваем пра складаны лёс гэтага унікальнага музейнага кутка на Беларусі, які вымагае плённага дзяржаўнага стаўлення да сябе.

Віхуры XX стагоддзя, негатыўныя наступствы НТР, уздзеянне прыродных фактараў, а часцей за ўсё схаваная пад гучнымі фразамі чалавечая непавага да асяроддзя і да мінулага зрабіліся прычынамі разбурэння многіх гістарычных тэрыторый. Не стаў выключэннем і маёнтак "Здраўнёва".

Паходжанне тапоніма "Здраўнёва" тлумачыцца зліццём прыстаўкі "з" з назвай вёскі "Драўнёва", вядомай у крыніцах з канца XVIII ст. як уладанне тытулярнага саветніка Тадэуша Анацкевіча. Змяніўшы некалькіх уласнікаў і некалькі назваў (Малое Койтава, Сафіеўка), у маі 1892 г. маёнтак робіцца ўласнасцю Іллі Рэпіна, які вырашыў вярнуць свайму ўладанню назву "Здраўнёва", як "больш папулярнае і старое".

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі сядзібы памешчыкаў у акрузе былі разрабаваны. Але, захоўваючы добрую памяць пра Рэпіна, сяляне Здраўнёва не кранулі. У чэрвені 1918 г. з галоднага Петраграда ў сядзібу пераехала малодшая дачка Рэпіна — Тацццяна (па мужу Язева) са сваёй дачкой Тасяй. Па просьбе сялян у двух пакоях рэпінскага дома размясцілася школа. Тацццяна Іллінічна і Тася сталі ў ёй настаўніцамі. Неўзабаве да іх далучыўся Іван Дзмітрыевіч Дзьяканаў, былы семінарыст, сын святара Слабадской царквы, з якім Рэпіны з даўніх пор падтрымлівалі сяброўскія адносіны. У студзені 1921 г. адбылося вяселле Тасі і Івана. У Здраўнёве з'явіліся на свет праўнукі Рэпіна: Валянцін, Кірыл, Галіна, Раман.

Літаральна адразу пасля прыезду ў блізкіх мастака ўзніклі складанасці з мясцовымі ўладамі. 22 кастрычніка 1918 г. Тацццяна Іллінічна пісала бацьку пра спробу выдаліць яе з сядзібы як былую ўласніцу, але "валасны камітэт заступіўся". "Для пракармлення" былым уласнікам пакінулі ўсяго 4 дзесяціны, а астатнюю зямлю і частку пабудоў падзялілі паміж малазямельнымі сялянамі.

Лёс дачкі і яе сям'і выклікалі глыбокую занепакоенасць у Іллі Яфімавіча. Гэтым былі абумоўлены спробы Рэпіна прыцягнуць увагу ўладаў да жыхароў Здраўнёва і дамагчыся аховы сядзібы.

Да 1922-23 гг. адносіцца пісьмо мастака ў аддзел музеяў Наркамасветы РСФСР наступнага зместу:"Прошу отдел музеев взять под опеку мою усадьбу — теперь школу — со всеми художественными произведениями, большей части моей работы и — моего сына... Очень прошу не оставить без помощи правительства Советов, за непосильные труды — родственное мне семейство, прибавить им земли и оклад Ил.Р."

Дакументы, што захоўваюцца ў навуковым архіве Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, сведчаць пра тое, што прашэнне Рэпіна выклікала перапіску паміж аддзелам музеяў і адміністрацыяй Віцебскай губерні. У дачыненні да аддзела музеяў ад 15 лютага 1923 г. паведамлялася, што "дом усадьбы "Здравнево" состоит под особой охраной отдела музеев Наркомпроса. Ввиду сего отдел по делам музеев просит.. охранить как дом, так и художественное собрание в нем находящееся, предметы которого не могут быть перемещаемы или изъяты без ведома и особого на то разрешения отдела музеев".

У адказе Віцебскага губернскага камунальнага аддзела ад 19 лютага 1923 г. адзначалася, што "коммунальным отделом сделаны соответствующие распоряжения по охране усадьбы "Здравнево". 11 кастрычніка таго ж года аддзел музеяў Наркамасветы патрабаваў ад Віттубана "в срочном порядке дать свое заключение относительно музейного состояния усадеб Витебской губернии и целесообразности оставления их в дальнейшем на учете отдела музеев". Аб Здраўнёве ў адказе на згаданы ліст паведамлялася, што "Витебским волисполкомом приняты меры охраны", но "Витгубоно за неимением средств и сотрудников не мог на месте составить опись художественных предметов и принять меры научной охраны."

Тым не менш, лісты Рэпіна дапамаглі вырашэнню зямельнага пытання і на некаторы час збераглі сядзібу. У копіі пратакола адкрытага судовага паседжання камісіі Віцебскага павятовага зямельнага ўпраўлення ад 2 жніўня 1923 г. адзначана, што "апелляторша Репина просила оставить за ней весь участок, т.к. постройки приходят в разрушение и ремонтировать их не представляется возможности, ввиду того, что центр занят посторонними лицами, которые не заинтересованы в сохранении данного участка как исторической редкости". Вынікам судовага разбору стала рашэнне камісіі правесці размежаванне зямлі былога маёнтка такім чынам, каб з "земли пользования гр.Репиной и свободной, еще не использованной, образовать вокруг усадьбы культурный центр в количестве около 14 дес.", а астатнім землекарыстальнікам выдзяліць адпаведныя ўчасткі і звесці іх "к одному месту". 19 чэрвеня 1924 г. землеразмеркавальная праца завяршылася.

Як сведчаць дакументы, першыя спробы музеефікацыі і аховы сядзібы далі даволі сціплыя вынікі. Але жыхароў Здраўнёва чакалі новыя выпрабаванні. 5 сакавіка 1925 г. Тацццяна Іллінічна піша да бацькі:"А еще мы очень волнуемся в связи с новым распоряжением о выселении помещиков (бывших) с участков земли, которой они пользовались. Выселяют в Архангельскую губернию и в Сибирь в три срока (апрель, осень, январь). Мы хотя к числу помещиков никогда не принадлежали, т.е. не жили на доходы с имения, но старанями латыша, что поселили во дворе, нас занесли в список..." Толькі зварот М.І. Калініна ад 6 красавіка 1925 г. прывёў да рашэння ЦВК БССР пакінуць сядзібу ва ўладанні дачкі мастака.

І ўсё ж пагроза рэпрэсій, што з цягам часу нарастала, прымусіла сваякоў Рэпіна дамагацца дазволу на выезд з СССР, што ўдалося здзейсніць у жніўні 1930 г. Перад ад'ездам друзлы здраўнёўскі дом быў прададзены на дровы. Успамінаючы пра тыя дні, старажылы расказваюць, што да вайны ў хаце аднаго селяніна знаходзіліся дзверы са Здраўнёва з выявою галавы каня.

У 1931 г. у навакольле Здраўнёва прыйшла цывілізацыя — у 4 км на супрацьлеглым беразе на камбінаце вапнавых матэрыялаў пачалася прамысловая распрацоўка радовішча даламіту. Як пісаў у 1939 г. у сваім артыкуле пра Здраўнёва беларускі празаік Юрка Віцьбіч:"Высокія вежападобныя печы (прыгажу:а-завода) змянілі ўвесь вакольны пейзаж".

10-годдзе з дня смерці Рэпіна СНК БССР адзначыў пастановай ад 17 студзеня 1941 г.: узяць пад ахову сядзібу "Здраўнёва" і паставіць "гранітную пліту з мемарыяльным надпісам." Такой жа запознянай была пераціска, што распачалася ў красавіку — маі 1941 г. паміж Усерасійскай Акадэміяй мастацтваў і Камітэтам па справах мастацтваў Наркамасветы з прычыны "организации в доме И.Е.Репина летней базы для студентов Академии и о взятии на учет имеющихся в доме художественных и мемориальных ценностей..."




У далейшым лёс Здраўнёва хваляваў многіх дзеячаў культуры Расіі і Беларусі — І.Грабара, Я.Коласа, В.Бялыніцкага-Бірулю. Але толькі ў 1956 г. на месцы дома Рэпіна была ўстаноўлена бронзавая мемарыяльная дошка.

Ў 60-70-я гг. на тэрыторыі сядзібы размяшчаліся піянерскія летнікі. Піянерскі летнік трамвайнага парка, а затым Кастрычніцкага РАНА г. Віцебска "ўпрыгожыў" сядзібу каркаснымі пабудовамі, бюстам Леніна і старымі трамвайнымі вагонамі, некаторыя з іх былі выпушчаны ў пачатку XX ст. і з'яўляліся безумоўна унікальнымі помнікамі тэхнічнай думкі. Для добраўпарадкавання летнікаў рэльеф быў знівеліраваны і падсыпаны пры будаўніцтве пляцовак для гульняў.

Але гэта было дзіцячае гарэзніцтва ў параўнанні з наступствамі ліста міністра культуры БССР М.Мінковіча ад 6 лістапада 1969 г. У лісце адзначалася, што сядзіба "Здраўнёва" — "ценный памятник союзного значения", але "учитывая значение месторождения "Койтово-Здравнево" для известкования кислых почв республики", міністэрства вырашыла перагледзець межы і без таго ўмоўнай зоны аховы і скараціць яе з 34,8 га да 14,4 га. Патрабаванні міністэрства да распрацоўкі, якія ўключалі аднаўленне рэльефа і яго "облесение местными породами деревьев", не былі выкананы. У выніку вёска Цякова была зруйнавана і адразу за Цякоўскім ручаём, на месцы высокага берага Дзвіны, адлюстраванага Рэпіным на карцінах "Дзвіна. Партрэт сына Юрыя", "Паненка ў вёсцы", працягнуўся на некалькі сотняў метраў вялізны катлаван, запоўнены вадою.

"Союзное значение" рэпінскай сядзібы ўсё ж не было забытае. 30 снежня 1970 г. у адпаведнасці з пастановай бюро ЦК КПБ "О некоторых вопросах дальнейшего развития культуры республики" бюро Віцебскага абкама партыі і аблвыканкама прынялі рашэнне аб аднаўленні "бывшей дачи И.Е.Репина" і пераўтварэнні яе ў філію Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

На пачатку 1977 г. спецыялізаваная майстэрня Саюза архітэктараў БССР атрымала планавае заданне на праектаванне дома-музея І.Рэпіна. Галоўным архітэктарам праекта быў прызначаны П.Кракалёў.

Напрыканцы 1982 г. распрацоўка генплана і поўнай працоўнай дакументацыі была завершана. Да таго часу на месцы рэпінскай сядзібы захаваліся рэшткі пограба, фундамент гаспадарскага дома, перасохлая сажалка, ліпавыя прысады і асобныя дрэвы.

Да канца 1989 г. асноўная праца па ўзвядзенні будынка музея і добраўпарадкаванні тэрыторыі завяршылася.

Агульная плошча зоны аховы і зоны рэгулявання забудовы, што ўключае ўчастак лесу на супрацьлеглым беразе, склала 15 га. Рэжым зоны ў асноўным забяспечвае захаванасць помніка, аднак крытэрыем магчымага будаўніцтва і гаспадарчай дзейнасці па-за зонай рэгулявання забудовы безумоўна павінны быць захаванне прыроднага асяроддзя і зрокавае ўспрыманне як сядзібы, так і навакольных пейзажаў.

Музей яшчэ меў цяжкасці пры стварэнні экспазіцыі, але яго наведвалі дарослыя і дзеці, шматлікія экскурсіі. Традыцыйным стаў Міжнародны дзіцячы пленэр "Здраўнёва". Усё абарвалася ў адно імгненне. 1 лютага 1995 года з-за выканаўчай з парушэннямі правілаў бяспекі праводкі ў музеі пачаўся пажар, які літаральна знішчыў другі паверх і вежу. Першы этаж пацярпеў у меншай ступені.

Не губляючы надзеі на адраджэнне музея, хацелася б спыніцца на паняцці "мемарыяльнасць". Звычайна ў якасці галоўнай прыкметы пад гэтым разумеюць набор аўтэнтычных рэчаў. Гэта, безумоўна, сутнасны элемент, аднак ці можна абмяжоўвацца толькі ім? Да прыкметаў мемарыяльнасці варта аднесці і матэрыяльныя структуры, у тым ліку і архітэктурна-ландшафтнае асяроддзе, якое зрэдчас у большай ступені, чым асабістыя рэчы, з'яўляецца носьбітам матэрыяльнага ўвасаблення памяці аб падзеях.

Віцебскі краязнаўчы музей валодае абмежаванай калекцыяй рэпінскіх работ і рэчаў. Клопат пра іх захаванне ставіць пад сумненне магчымасць іх экспанавання ў Здраўнёве. Таму галоўнай задачай музея, апрача захавання ландшафту, мы лічым уводзіны наведніка ў стылёвае, прадметнае і прыроднае асяроддзе сядзібы, што дазволіла б глыбей зразумець свет, што акаляў мастака і яго творчасць.

Адналенне гістарычнага аблічча сядзібы з адпаведным музейным комплексам функцыямі: мемарыяла, запаведніка, турыстычнага цэнтра, магчыма, этнаграфічнага музея пад адкрытым небам, пераўтварыла б Здраўнёва ва унікальны гісторыка-культурны аб'ект, які мае асаблівую значнасць для развіцця сувязей паміж народамі Украіны, Расіі, Беларусі і варты памяці вялікага мастака.

**В.ШЫШАНОЎ,**
**старшы навуковы супрацоўнік музея-сядзібы І.Я.Рэпіна "Здраўнёва"**

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік — **Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**



Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 5000
Замова 2875
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**